

# ВЕНЕРА ІЛЬСКАЯ

’Ιλεως ἦν δ'ἐγώ, ἔστω ὁ ἀνδρίας
καὶ ἤπιος, οὕτως ἀνδρεῖος ὤν.

ΛΟΥΚΙΑΝΟΥ ΦΙΛΟΨΕΥΔΗΣ[1]

**Я** спускаўся з апошняга адхону гары Канігу і, хоць сонца ўжо зайшло, мог разгледзець на раўніне дамы маленькага мястэчка Іль, куды я накіроўваўся.

— Ці ведаеце вы, дзе жыве пан дэ Пэрарад? — спытаўся я ў каталонца, які ўжо другі дзень быў мне за праваднікá.

— Ды ўжо ж! Я ведаю ягоны дом, як свой! — адказаў ён.— Калі б цяпер не было так цёмна, я б вам яго паказаў. Гэта самы прыгожы дом у Іле. У яго, пана дэ Пэрарада, кішэня не пустая. А зараз яшчэ ён жэніць сына з дзяўчынай, багацейшай за яго.

— А ці скора будзе вяселле? — пацікавіўся я.

— Скора! Мо ўжо нават і музыкаў запрасілі. Можа, сёння, можа, заўтра, а мо і паслязаўтра. Вяселле будзе ў Пюігарыгу, бо наш паніч жэніцца з тамтэйшай паннай. Будзе на што паглядзець, ага!

Да пана дэ Пэрарада мне параіў звярнуцца мой сябар пан дэ П. Гэта быў, як казаў мне сябар, даволі адукаваны аматар старасветчыны, прыязны і ветлівы, гатовы заўсёды дапамагчы, чым толькі мог. Ён, казаў сябар, з найвялікшым задавальненнем пакажа мне ўсе старажытнасці за дзесяць лье навокал. І я якраз разлічваў на яго, каб наведаць ваколіцы Іля, бо ведаў, што там захавалася шмат антычных і сярэднявечных помнікаў. Але гэтае вяселле, пра якое я чуў цяпер упершыню, разбурала ўсе мае планы.

[1] «Дык хай жа,— сказаў я,— статуя будзе да нас спагадная і прыхільная, калі яна ўжо так падобная да чалавека». *Лукіян. Аматар хлусні (ст.-гр.).*

«Я там буду лішні»,— падумаў я. Але ж мяне там чакалі, пан дэ П. паведаміў пра мяне, і я мусіў там з'явіцца.

— Давайце паспрачаемся,— сказаў мне праваднік, калі мы ўжо спусціліся на раўніну,— давайце паспрачаемся на цыгару — я ведаю, што вы будзеце зараз рабіць у пана дэ Пэрарада.

— Але ж,— адказаў я, падаўшы яму цыгару,— пра гэта не так ужо цяжка здагадацца. У такую часіну, прайшоўшы шэсць лье праз Канігу, найлепшая справа — гэта павячэраць.

— Ну, так, але заўтра?.. Іду ў заклад, што вы прыехалі ў Іль, каб пабачыць стодзіва. Я адразу здагадаўся, калі ўбачыў, як вы малявалі серабонскіх святых.

— Стодзіва? Якое стодзіва?

Гэтае слова мяне зацікавіла.

— Як! Хіба ж вам не казалі ў Перпіньяне, як пан дэ Пэрарад знайшоў у зямлі стодзіва?

— Вы маеце на ўвазе тэракотавую статую? З гліны?

— Ды не, не з гліны, а з медзі, хоць медзякі з яе рабі. А важыць, дык як звон у царкве. Мы знайшлі яе ў зямлі, пад алівай.

— Дык вы самі былі там, калі яе знайшлі?

— Так, пане. Тыдні два таму пан дэ Пэрарад сказаў нам — мне і Жану Колю — пайсці выкарчаваць аліву, што змерзла той зімою, бо зіма, як памятаеце, была надта халодная. Дык вось, Жан Коль надта ўжо шчыраваў, капаючы, і як суне рыдлёўку — і толькі бомм... як у звон ударыў. Што ж гэта, думаю я. Тады мы капаем, капаем, аж пакуль не паказалася чорная рука, быццам нябожчык закапаны. Я дык спалохаўся. Бягу да пана і кажу: «Там,— кажу,— пад алівай мерцвякі! Трэба паклікаць святара!» — «Якія мерцвякі?» — кажа ён. Тады пайшоў і не паспеў яшчэ пабачыць тую руку, як закрычаў: «Антык! Антык!» Ну, не раўнуючы, скарб які знайшоў. І во, бярэ рыдлёўку і капае, як мы ўдвух.

— І што ж вы знайшлі?

— Вялікую чорную бабу, амаль зусім голую, хай пан прабачае. Уся з медзі, і пан дэ Пэрарад кажа, што гэта стодзіва з паганскіх часоў... часоў Карла Вялікага, ці што...

— А, разумею... Якая-небудзь бронзавая Божая Маці з разбуранага кляштара.

— Божая Маці? Хэ!.. Дык я б пазнаў, калі б гэта была Божая Маці. Гэта стодзіва, кажу вам: па ёй жа ж відаць. Вытрашчыць свае белыя вочы і глядзіць на цябе... Быццам

разглядвае. І глядзець не захочаш, вочы апусціш.

— Белыя вочы? Яны, пэўна, інкруставаныя ў бронзе. Мабыць, гэта нейкая рымская статуя.

— Во-во, рымская. Пан дэ Пэрарад казаў, што рымская. Дык вы вучоны, як і ён.

— Яна цэлая? Добра захавалася?

— О пане, у яе ўсё на месцы. Яна яшчэ прыгажэйшая і цалейшая за бюст Луі-Філіпа з фарбаванага гіпсу, што стаіць у мэрыі. І ўсё ж твар яе мне не надта даспадобы. У яе злосны выгляд... дый сама яна злая.

— Злая? Што ж злога яна вам зрабіла?

— Дакладней, не мне, зараз раскажу. Мы ўчатырох узяліся яе паставіць, і пан дэ Пэрарад таксама цягнуў за вяроўку, такі з яго асілак, не дужэйшы за кураня! Добра напяўшыся, мы яе паставілі. Я падабраў чарапак, каб яе падперці, аж раптам — бух! — яна падае наўзнак усёй сваёй грамадзінай. Я кажу: «Гэй там, беражыцеся!» Але ж позна — Жан Коль не паспеў прыняць нагу...

— І ён скалечыўся?

— Ага, нага пераламалася, як жэрдка! Небарака. Я, калі ўбачыў, раззлаваўся. Хацеў ляснуць стодзіва рыдлёўкай, але пан дэ Пэрарад не дазволіў. Ён даў Жану Колю грошай, той дык яшчэ дагэтуль ляжыць і не ўстае, хоць прайшло ўжо два тыдні. А лекар сказаў, што ён ужо ніколі не будзе хадзіць гэтай нагой, як другой. Шкада, ён у нас быў самы спрытны і, пасля паніча, найлепшы гулец у мяч. Пан Альфонс дэ Пэрарад надта бедаваў, бо Коль гуляў з ім разам. Як прыгожа яны перакідвалі мяч — бац! бац! — і ні разу на зямлю не ўпадзе.

Так гаворачы, мы ўвайшлі ў Іль, і неўзабаве я ўжо стаяў перад панам дэ Пэрарадам. Гэта быў невялічкага росту стары, яшчэ бадзёры і поўны сілы, з напудранымі шчокамі, чырвоным носам і вясёлымі, трошкі насмешлівымі вачыма. Перш чым раскрыць ліст пана дэ П., ён пасадзіў мяне за багата накрыты стол, адрэкамендаваў мяне жонцы і сыну як славутага археолага, які мусіць вярнуць з забыцця занядбаны навукоўцамі Русільён.

Добра налягаючы на вячэру, бо нішто так не абуджае апетыту, як свежае горнае паветра, я разглядаў гаспадароў. Я ўжо сказаў пару словаў пра пана дэ Пэрарада. Дадам яшчэ, што ён быў поўны кіпучае жвавасці. Ён размаўляў, еў, ускокваў, бег у бібліятэку, прыносіў мне кнігі, паказваў эстампы, падліваў мне ў чарку. Ні хвіліны ён не мог уседзець спакойна. Яго жонка, трошкі распаўнелая, як боль-

шасць каталонак пасля сарака гадоў, падалася мне глухой правінцыялкай, занятай выключна гаспадарчымі клопатамі. І хоць вячэры хапіла б як найменей чалавек на шэсць, яна збегала на кухню, загадала забіць пару галубоў, напячы кукурузных аладак і адчыніць незлічоную колькасць слоікаў з канфітурамі. Праз хвіліну стол быў завалены стравамі і бутэлькамі, і я, напэўна, памёр бы ад нястраўнасці, калі б толькі пакаштаваў усё тое, што мне прапанавалі. І кожнага разу, як я адмаўляўся ад нейкай стравы, гаспадары засыпалі мяне перапрашэннямі. Яны баяліся, што я няўтульна сябе адчуваю ў іх мястэчку. Тут у правінцыі надта не размахнешся, а парыжанам так цяжка дагадзіць!

У адрозненне ад сваіх мітуслівых бацькоў пан Альфонс дэ Пэрарад сядзеў нерухома, як Тэрмін. Гэта быў высокі дзяцюк дваццаці шасці гадоў з прыгожым, але невыразным тварам. Яго рост і атлетычны склад спраўджалі яго славу нястомнага гульца ў мяч. Гэтым вечарам ён быў адзеты па-элеганцку, як з гравюры ў апошнім нумары «Часопіса мод». Але, здавалася, яму было няёмка ў гэтым убранні. Ён сядзеў са сціснутай аксамітным каўняром шыяй, як кій праглынуўшы, і калі паварочваўся, дык адразу ўсім целам. Яго вялікія апаленыя сонцам рукі і кароткія пазногці рудзіўна кантраставалі з ягоным гарнітурам. Здавалася, рукі ратая тырчаць з рукавоў франта. Дарэчы, хоць ён і агледзеў з цікавасцю мяне як парыжаніна з галавы да ног, за ўвесь вечар ён толькі аднойчы да мяне звярнуўся, і тое, каб спытацца, дзе я купіў ланцужок на мой гадзіннік.

— Дык вось, мой дарагі госць,— сказаў мне пан дэ Пэрарад, калі ўжо канчалі вячэраць,— цяпер вы мой, вы ў мяне дома. І я вас не адпушчу, пакуль вы не пабачыце ўсё, што ёсць цікавага ў нашых гарах. Трэба, каб вы зведалі наш Русільён і аддалі яму належнае. Вы сабе нават не ўяўляеце ўсё тое, што мы вам пакажам. Фінікійскія, кельцкія, рымскія, арабскія, візантыйскія помнікі — вы ўбачыце ўсё да апошняга каменьчыка. Я папаваджу вас паўсюль, мы не прапусцім ніводнай цаглінкі.

Прыступ кашлю не даў яму дагаварыць. Я скарыстаў момант, каб сказаць яму, што мне было б вельмі прыкра забіраць у яго час, калі ў сям'і адбываецца такая важная падзея. Калі б ён згадзіўся даць мне свае каштоўныя парады адносна прагулак, якія мне варта было б зрабіць, дык я мог бы, не турбуючы яго...

— А, вы маеце на ўвазе вяселле гэтага малойца! — перапыніў ён мяне.— Не хвалюйцеся, вяселле адбудзецца

паслязаўтра. Вы пагуляеце з намі, у сям'і, бо маладая цяпер у жалобе па сваёй цётцы, якая пакінула ёй спадчыну. І таму ніякага свята, ніякай гулянкі... Шкада... Вы б пабачылі, як скачуць нашы каталонкі... Яны прыгожанькія, і, можа, у вас узнікла б жаданне пайсці за прыкладам майго Альфонса. Адно вяселле, кажуць, цягне за сабой другое... У суботу, як толькі маладыя ажэняцца, я буду вольны, і мы рушым у дарогу. Вы ўжо даруйце, вам, пэўна, будзе нудна на правінцыйным вяселлі. Вы, парыжане, нагледзеліся на розныя святы... а тут вяселле, ды яшчэ без гулянкі! Аднак вы пабачыце маладую... маладую... ну вы пасля мне скажаце, ці яна вам спадабалася... Але ж вы чалавек паважны і на жанчын ужо, пэўна, не глядзіце. У мяне ёсць штось цікавейшае вам паказаць. Ужо ж я вам нешта пакажу!.. Рыхтуйцеся на заўтра да вялікай неспадзяванкі.

— Ды дзе ўжо там,— адказаў я.— Цяжка мець дома скарб, каб усе навокал пра яго не ведалі. Здаецца, я здагадваюся, што́ за неспадзяванку вы мне рыхтуеце. Але калі вы маеце на ўвазе вашу статую, дык тое, што сказаў мне мой праваднік, толькі абудзіла маю цікавасць і настроіла мяне на захапленне.

— А, дык ён расказаў вам пра стодзіва — так яны называюць маю чароўную Венеру Тур... але болей я вам нічога не скажу. Заўтра ўдзень вы яе пабачыце і скажаце, ці я маю рацыю, што лічу яе шэдэўрам. Да д'ябла, як дарэчы, што вы прыехалі! Там ёсць надпіс, які я, бедны невук, тлумачу па-свойму... але вы, навуковец з Парыжа!.. Вы, можа, будзеце смяяцца з майго тлумачэння... бо я напісаў даследаванне... я, стары правінцыйны аматар старажытнасцяў, я ўзяўся за... Я хачу агаломшыць прэсу... Калі б вы згадзіліся прачытаць і сёе-тое паправіць, я б мог спадзявацца... Напрыклад, мне вельмі цікава ведаць, як бы вы пераклалі гэты надпіс на цокалі: CAVE... Але не буду ў вас зараз нічога пытацца! Да заўтра, да заўтра! Ні слова пра Венеру сёння!

— І праўда, Пэрарад,— сказала яму жонка,— што ты прычапіўся са сваім стодзівам? Хіба ты не бачыш, што не даеш пану паесці. Пан, пэўна, бачыў у Парыжы статуі прыгажэйшыя за тваю. Там у Цюільры іх дзесяткі, і бронзавых таксама не бракуе.

— Вось яно — невуцтва, святое правінцыйнае невуцтва! — перапыніў яе пан дэ Пэрарад.— Параўнаць цудоўны антык з безгустоўнымі фігурамі Кусту!

Як непачціва мая пакаёўка
Кажа пры мне пра высокіх багоў!

Вы ведаеце, мая жонка хацела, каб я пераплавіў маю статую на звон для нашай царквы і каб яна была яго хроснай. Расплавіць шэдэўр Мірона!

— Шадэўр, шадэўр! Ужо яна дык адпаліла шадэўр — нагу чалавеку зламала!

— Слухай, кабета,— сказаў рашуча пан дэ Пэрарад і выставіў наперад правую нагу ў шаўковай панчосе,— калі б мая Венера зламала мне вось гэтую нагу, я б не шкадаваў.

— А божачкі! Пэрарад! Ну што ты такое вярзеш! Добра, што чалавеку ўжо лепей. Я дык і глядзець не магу на гэтую статую, што робіць столькі шкоды. Бедны Жан Коль!

— Паранены Венерай,— зарагатаў пан дэ Пэрарад.— Паранены Венерай, ён, невук, яшчэ і незадаволены: Veneris nec praemia noris[1]. Хто ж з нас не быў паранены Венерай?

Пан Альфонс, які лепей разумеў па-французску, чым па-лацінску, падміргнуў мне з разумным выглядам і паглядзеў на мяне, быццам пытаючыся: «Ну а вы, парыжанін, зразумелі?»

Вячэра скончылася. А я ўжо цэлую гадзіну нічога і не еў. Я стаміўся і пачаў раз-пораз пазяхаць. Пані дэ Пэрарад першая гэта заўважыла і сказала, што пара ўжо ісці спаць. І зноў пачаліся перапрашэнні, што мне, можа, будзе не надта ўтульна — гэта ж не ў Парыжы. У правінцыі ўсё так блага! Але хай я ўжо не крыўдую на іх, русільёнцаў. Я марна спрабаваў запэўніць іх, што пасля горнай прагулкі абярэмак саломы будзе мне найлепшай пасцеляй, але яны, не змаўкаючы, прасілі мяне прабачыць ім, бедным вяскоўцам, што яны не могуць прыняць мяне так, як бы ім хацелася. Урэшце пан дэ Пэрарад правёў мяне ў прызначаны мне пакой. Сходы, верхнія прыступкі якіх былі драўляныя, вывелі нас на сярэдзіну калідора з некалькімі пакоямі.

— Направа,— сказаў гаспадар,— пакой для будучай жонкі Альфонса. Ваш пакой — у другім канцы калідора. Вы ж разумееце,— дадаў ён, паспрабаваўшы падацца дасціпным,— што маладых трэба размясціць асобна. Вы будзеце ў адным канцы дома, яны — у другім.

Мы ўвайшлі ў добра абстаўлены пакой, і першае, што мне трапілася на вочы, быў ложак — сем стоп удоўжкі, шэсць ушыркі і такі высокі, што трэба было падстаўляць услончык, каб на яго ўзлезці. Мой гаспадар паказаў мне, дзе званок,

[1] І ты не спазнаеш дарункаў Венеры *(лац.)*.

сам праверыў, ці поўна ў цукерніцы, ці бутэлечкі з калонскай вадою стаяць на сваім месцы на туалетным століку, і, перапытаўшыся яшчэ колькі разоў, ці мне чаго не трэба, пажадаў мне добрай ночы і пайшоў.

Вокны былі зачыненыя. Перш чым раздзецца, я расчыніў адно акно, каб падыхаць свежым начным паветрам, такім чароўна-салодкім пасля працяглай вячэры. Трохі наводдаль перада мною высілася Канігу, заўсёды па-свойму прывабная, але гэтым вечарам, залітая месяцовым святлом, яна здавалася мне найпрыгажэйшай гарою ў свеце. Некалькі хвілін я захапляўся яе велічнымі абрысамі і ўжо збіраўся зачыніць акно, калі, апусціўшы позірк, убачыў статую на п'едэстале за дваццаць сажняў ад дома. Яна стаяла на рагу жываплота, які аддзяляў маленькі садок ад шырокага і раўнюткага прастакутніка, які, як я даведаўся пазней, быў мястэчковай пляцоўкай для гульні ў мяч. Гэтую пляцоўку, што была належала пану дэ Пэрараду, ён саступіў уладам мястэчка па настойлівым хадайніцтве свайго сына.

Здалёк мне было цяжка разгледзець статую, я мог меркаваць толькі пра яе вышыню, якая, як мне здалося, складала каля шасці стоп. Тым часам па пляцоўцы побач з жываплотам праходзілі два мястэчковыя вісусы, насвістваючы прыгожую русільёнскую мелодыю *«Агні ў гарах»*. Яны спыніліся паглядзець на статую, адзін нават нешта сказаў ёй уголас. Ён гаварыў па-каталонску, але я ўжо даволі доўга вандраваў у Русільёне і таму збольшага разумеў, што ён кажа.

— А, дык вось ты дзе, паскудніца! (Каталонскае слова было трохі мацнейшае.) Вось ты дзе! Дык гэта ты зламала нагу Жану Колю! Каб ты трапілася мне, я б табе карак зламаў.

— Гы! А чым бы ты зламаў? — засумняваўся другі.— Яна ж медзяная і такая цвёрдая, што Эцьен зламаў свой напільнік, калі паспрабаваў папілаваць. Гэта медзь паганскіх часоў, цвёрдая, як няведама што.

— Каб у мяне было зараз маё зубіла (здаецца, гэта быў чаляднік-слесар), я б ёй хутка вочы павыкалупваў, як арэхі са шкарлупіны. Там срэбра болей чым на сто су.

Яны адышліся трошкі далей.

— Трэба пажадаць стодзіву добрай ночы,— сказаў большы з чаляднікаў, раптам спыніўшыся.

Ён нахіліўся і, пэўна, падняў камень. Я ўбачыў, як ён размахнуўся, нешта кінуў, і адразу штосьці бомкнула па бронзе. Праз момант чаляднік схапіўся за галаву і закрычаў ад болю.

— Яна кінула камень назад! — закрычаў ён.

І абодва шалапуты кінуліся наўцёкі. Відаць, камень адскочыў ад металу і пакараў хлопца за абразу, што ён прычыніў багіні.

Я зачыніў акно, пасмяяўшыся ад усёй душы.

— Яшчэ адзін вандал, пакараны Венерай! Каб жа кожнаму разбуральніку нашых старых помнікаў гэтак адскочыла ў галаву!

З гэтым міласэрным пажаданнем я і заснуў.

Калі я прачнуўся, быў ужо дзень. Каля майго ложка стаяў з аднаго боку пан дэ Пэрарад у халаце, а з другога — слуга, пасланы гаспадыняй, з кубкам шакаладу ў руцэ.

— Ану, уставайце, парыжанін! От ужо мне гэтыя сталічныя лайдакі! — казаў мой гаспадар, пакуль я паспешліва адзяваўся.— Ужо восьмая гадзіна, а ён яшчэ спіць! Я дык ужо а шостай устаў. Ужо трэці раз да вас паднімаюся, падышоў да вашых дзвярэй на дыбках: нікога, ні знаку жыцця. У вашым веку шкодна шмат спаць. Вы ж яшчэ не бачылі маю Венеру. Ану, выпіце-тка хуценька кубачак барселонскага шакаладу... Сапраўдная кантрабанда... Такой у Парыжы няма. Набірайцеся сілы, бо, як толькі вы ўбачыце маю Венеру, вас ужо будзе ад яе не адцягнуць.

Праз пяць хвілін я быў гатовы, гэта значыць напалову пагаліўся, спехам зашпіліў гузікі і апёкся шакаладам. Я спусціўся ў сад і апынуўся перад чароўнай статуяй.

Гэта і напраўду была Венера, незвычайна прыгожая. Вышэй пояса яна была голая, як звычайна старажытныя скульптары падавалі багінь. Правая рука, прыўзнятая да грудзей, была павернутая далонёю ўнутр, вялікі і два наступныя пальцы былі выцягнутыя, два астатнія трошкі сагнутыя. Другою рукой каля клуба яна трымала складкі ўбрання, што закрывала ніжнюю частку цела. Поза гэтай статуі нагадвала мне вядомага «Гульца ў мору», якога, няведама чаму, называюць «Германікам». Можа, скульптар хацеў паказаць багіню, што гуляе ў мору.

Што б там ні было, немагчыма было ўявіць сабе штосьці больш дасканалае за цела гэтай Венеры, больш прывабнае і пажадлівае за яго абрысы, больш густоўнае і шляхотнае за яе ўбранне. Я чакаў убачыць нейкі твор часоў Позняй Імперыі, а перада мною быў шэдэўр найлепшых часоў скульптурнага мастацтва. Больш за ўсё мяне ўразіла выключная праўдзівасць формаў, быццам гэта быў злепак з натуры, калі толькі прырода магла ствараць такія дасканалыя ўзоры.

Валасы, адкінутыя з ілба, некалі, напэўна, былі залачоныя. Галава маленькая, як амаль ва ўсіх грэчаскіх статуй, была трошкі нахіленая ўперад. Што ж да твару, дык я ніколі не здолею апісаць яго незвычайнасць, тып яго і блізка не быў падобны да ніводнай антычнай статуі, што я ведаў. Гэта была зусім не тая спакойная і суровая прыгажосць грэчаскіх майстроў, якія, згодна з традыцыяй, надавалі рысам твару велічную застыласць. А тут, наадварот, я з подзівам угадваў падкрэсленае жаданне творцы перадаць у твары падступнасць, амаль злоснасць. Увесь твар быў крышачку напружаны: вочы трошкі скошаныя, ражочкі вуснаў прыўзнятыя, ноздры крыху раздзьмутыя. Пагарда, іронія, жорсткасць — вось што чыталася на гэтым, зрэшты, незвычайна прыгожым твары. І праўда, чым болей я глядзеў на гэтую статую, тым болей мне рабілася прыкра, што такая неверагодная прыгажосць можа спалучацца з суцэльнай бессардэчнасцю.

— Калі і сапраўды ў гэтай статуі быў жывы прататып,— сказаў я пану дэ Пэрараду,— хоць я і сумняваюся, каб неба магло спарадзіць такую жанчыну, дык мне шкада яе каханкаў! Ёй, пэўна, падабалася прымушаць іх паміраць ад роспачы. У яе твары ёсць нешта жорсткае, і, аднак, я ніколі не бачыў такой прыгажосці.

— «Вось Венера звязала ахвяру сілкамі!» — закрычаў пан дэ Пэрарад, усцешаны маім захапленнем.

Пякельная іронія яе твару, мабыць, яшчэ больш падкрэслівалася кантрастам яе бліскучых вачэй з чарнавата-зялёнай пацінай, якая з часам укрыла ўсю статую. Гэтыя бліскучыя вочы стваралі ілюзію рэальнасці, здаваліся жывымі. Я згадаў, як праваднік казаў мне, што яна змушае апусціць вочы таго, хто на яе глядзіць. Гэта было амаль праўдай, і я нават трошкі зазлаваў на сябе, адчуўшы нейкую няёмкасць перад гэтай бронзавай постаццю.

— А цяпер, мой дарагі калега ў антыкварных справах, калі вы ўсё добра паглядзелі, давайце распачнем навуковы дыспут. Што вы скажаце пра гэты надпіс, на які вы яшчэ не звярнулі ўвагі?

Ён паказаў мне на п'едэстал статуі, дзе я прачытаў наступныя словы:

*CAVE AMANTEM*[1]

— Quid dicis, doctissime?[2] — спытаўся ён у мяне, паці-

---

[1] Бойся таго, хто кахае *(лац.)*.
[2] Што скажаш, найвучонейшы? *(лац.)*

раючы рукі.— Паглядзім, ці мы пагодзімся на сэнсе гэтага *cave amantem!*

— Але,— адказаў я,— тут можа быць два сэнсы. Можна перакласці: «Беражыся таго, хто цябе кахае». Аднак у гэтым выпадку наўрад ці *cave amantem* — прыклад добрай лаціны. Пабачыўшы д'ябальскі твар гэтае пані, я хутчэй падумаў бы, што творца хацеў папярэдзіць гледача ад гэтай жахлівай прыгажосці. Тады б я пераклаў: «Беражыся, калі *яна* цябе пакахае».

— Гм! Можна дапусціць і такое тлумачэнне. Але не сярдуйце, мне больш падабаецца першы пераклад, які я раскрыю шырэй. Вы ведаеце, хто быў каханкам Венеры?

— Іх было шмат.

— Так, але першы быў Вулкан. Ці не хацеў мастак сказаць ёй: «Нягледзячы на тваю прыгажосць, на твой пагардлівы позірк, тваім каханкам будзе кульгавы і брыдкі каваль»? Добры ўрок для баламутак!

Я міжволі ўсміхнуўся, настолькі штучным і ненатуральным падалося мне гэтае тлумачэнне.

— Лаціна з яе сцісласцю — жахлівая мова,— заўважыў я, каб не спрачацца з гэтым аматарам старажытнасцяў, і адступіў некалькі крокаў, каб лепей разгледзець статую.

— Хвіліначку, калега! — спыніў мяне за руку пан дэ Пэрарад.— Вы яшчэ не ўсё пабачылі. Тут ёсць яшчэ адзін надпіс. Устаньце на п'едэстал і паглядзіце на правую руку,— сказаў ён і дапамог мне падняцца.

Без лішняй цырымонлівасці я абхапіў за шыю Венеру, да якой я ўжо пачаў прызвычайвацца. Я нават на хвілінку зазірнуў ёй проста ў твар, і зблізу яна здалася мне яшчэ злейшай і разам з тым яшчэ прыгажэйшай. Пасля я заўважыў, што на руцэ быў выбіты нейкі надпіс, як мне здалося, антычным скарапісам. Уздзеўшы акуляры, я праслібізаваў наступнае, тым часам як пан дэ Пэрарад паўтараў за мною кожнае слова, ківаючы галавою і махаючы рукамі. Вось што я прачытаў:

*VENERI TVRBVL...*
*EVTYCHES MYRO*
*IMPERIO FECIT.*

Пасля слова *TVRBVL* у першым радку, як мне здалося, сцерлася некалькі літар, але *TVRBVL* чыталася выразна.

— Тут ёсць адно слова, што я пакуль не магу растлумачыць,— адказаў я.— Астатняе тлумачыцца проста: Эўтых Мірон зрабіў гэты дарунак Венеры на яе загад.

— Цудоўна. Але *TVRBVL*, што вы скажаце пра гэта? Што гэта за *TVRBVL*?

— *TVRBVL* для мяне загадка. Я ніяк не магу знайсці хоць які вядомы эпітэт Венеры, які мог бы мне дапамагчы. Што б вы сказалі наконт *TVRBVLENTA*? Венера, якая хвалюе, узрушае... Вы бачыце, мне ўвесь час не дае спакою яе злосны твар. *TVRBVLENTA* не такі ўжо і благі эпітэт для Венеры,— сціпла дадаў я, бо і сам не быў дарэшты задаволены сваім тлумачэннем.

— Венера неспакойная, Венера тлумная! Вы што, думаеце, мая Венера — дзеўка з карчмы? Ні ў якім разе, пане, гэта Венера з прыстойнага таварыства. Але я вам растлумачу гэтае *TVRBVL*... Толькі паабяцайце мне, што нікому не скажаце пра маё адкрыццё, пакуль маё даследаванне не будзе надрукавана. Справа ў тым, што я вельмі ганаруся гэтай знаходкай... Дайце ўжо і нам, бедным правінцыялам, падабраць пару каласкоў. Бо вы ж, шаноўныя парыжскія навукоўцы, такія багатыя!

З вышыні п'едэстала, на якім я ўсё яшчэ стаяў, я ўрачыста паабяцаў, што ніколі не ўпаду так нізка, каб украсці ў яго адкрыццё.

— *TVRBVL*... пане,— сказаў ён, падышоўшы бліжэй і сцішыўшы голас, каб ніхто, апроч мяне, не мог яго пачуць,— трэба чытаць *TVRBVLNERAE*.

— Я не зусім разумею.

— Паслухайце. За адно лье адсюль, ля падножжа гары ёсць вёска Бультэрнэр. Гэта сапсаванае лацінскае слова *TVRBVLNERA*. Гэткія інверсіі — рэч звычайная. Бультэрнэр быў рымскім горадам. Я даўно аб гэтым падазраваў, але ў мяне ніколі не было ніякіх доказаў. І вось, доказ перад вамі. Гэтая Венера была мясцовым боствам горада Бультэрнэра. А слова «Бультэрнэр», старажытнае паходжанне якога я вам растлумачу пазней, даводзіць яшчэ цікавейшую рэч. Справа ў тым, што Бультэрнэр, да таго як быць рымскім горадам, быў горадам фінікійскім!

Ён на хвілінку спыніўся, каб перавесці дух і парадавацца майму здзіўленню. Я ледзь стрымаўся, каб не засмяяцца.

— І сапраўды,— працягваў ён,— *TVRBVLNERA* — гэта фінікійскае слова. *TVR* — вымаўляйце «тур»... «Тур» і «Сур» — тое самае, праўда? «Сур» — фінікійская назва горада Тыра, няма патрэбы нагадваць вам сэнс гэтай назвы. *BVL* — гэта Баал, або Бал, Бэл, Бул — з нязначнымі адрозненнямі ў вымаўленні. Што да *NERA*, дык тут мне прыйшлося трохі пакруціць галаву. Я схільны меркаваць, не зна-

ходзячы адпаведнага фінікійскага слова, што яно паходзіць ад грэчаскага «νηρός», вільготны, багністы. Значыць, гэта гібрыднае слова. Каб пацвердзіць слова «νηρός», я пакажу вам у Бультэрнэры, як горныя ручаі зліваюцца там у смуродныя лужыны. З другога боку, канчатак *NERA* мог быць дададзены значна пазней у гонар Нэры Півэзувіі, жонкі Тэтрыка, якая магла нешта зрабіць для горада Турбула. Але ж з прычыны лужын я аддаю перавагу этымалогіі з «νηρός».

І, задаволены, ён зажыў нюшок табакі.

— Але пакінем фінікійцаў і вернемся да надпісу. Значыць, я пераклаў так: Венеры Бультэрнэрскай Мірон прысвячае, паводле яе загаду, гэтую статую, створаную ім.

Я стрымаўся, каб не пакрытыкаваць яго этымалагічныя разважанні, але і мне ў сваю чаргу хацелася паказаць сваю праніклівасць, і я сказаў:

— Пачакайце, пане. Мірон прысвяціў нейкую рэч, але мне зусім не здаецца, што гэта была вось гэтая статуя.

— Ды як жа! — закрычаў ён.— Хіба Мірон не быў славутым грэчаскім скульптарам? Талент перадаўся дзецям і ўнукам, і адзін з нашчадкаў стварыў гэтую статую. Усё вельмі проста.

— Але,— запярэчыў я,— тут на руцэ ёсць невялікая адтуліна. Я думаю, яна зроблена на тое, каб нешта замацаваць, напрыклад бранзалет, які гэты Мірон падараваў Венеры ў якасці пакаяльнай ахвяры. Мірон быў нешчаслівым каханкам. Венера раззлавалася на яго, і ён улагодзіў яе, падараваўшы ёй залаты бранзалет. Заўважце, што *fecit*, зрабіў, часта ўжываецца замест *consecravit*, падараваў. Гэта сінанімічныя словы. Я б вам прывёў болей прыкладаў, калі б меў пад рукой Грутэра або Орэлі. Цалкам натуральна, што закаханы прысніў Венеру, яму падалося, што яна загадвае падараваць залаты бранзалет яе статуі. Мірон дарue ёй бранзалет... Пасля варвары або які святакрадца...

— А! Адразу відаць, што вы пішаце раманы! — закрычаў мой гаспадар і падаў мне руку, дапамагаючы спусціцца.— Не, пане, гэта твор Міронавай школы. Вы толькі паглядзіце на працу, і вы пераканаецеся самі.

Узяўшы сабе за правіла ніколі не спрачацца з упартымі аматарамі старажытнасцяў, я схіліў галаву і згадзіўся:

— Гэта выдатны твор.

— А Божа! — закрычаў пан дэ Пэрарад.— Яшчэ адзін след вандалізму! У маю статую кінулі камень!

Ён заўважыў белы след каменя над самымі грудзьмі Венеры. Я ўбачыў падобны знак на пальцах правай рукі і

падумаў тады, што камень, ляцеўшы, зачапіў і пальцы або кавалачак каменя адкалоўся ад удару і адскочыў па руцэ. Я расказаў майму гаспадару пра спробу абразы, якой я быў сведкам, і пра неадкладнае пакаранне. Ён доўга смяяўся і, параўнаўшы чалядніка з Дыямедам, пажадаў яму, каб ён, як і гэты грэчаскі герой, убачыў, як усе яго сябры перакінуцца ў белых птушак.

Зазваніў звон да снядання, перапыніўшы нашу гутарку на класічныя тэмы, і, як і напярэдадні, мне прыйшлося есці за чацвярых. Пасля да пана дэ Пэрарада прыйшлі фермеры, і пакуль ён з імі размаўляў, яго сын павёў мяне паказаць экіпаж, які ён купіў для сваёй нявесты ў Тулузе і які, натуральна, прывёў мяне ў захапленне. Пасля я зайшоў з ім у стайню, дзе ён паўгадзіны расхвальваў мне сваіх коней, расказваў мне іх радавод, пералічваў прызы, што яны выйгралі на дэпартаменцкіх спаборніцтвах. Пасля ён пачаў гаварыць мне пра сваю будучую жонку, перайшоўшы да яе ад расказаў пра шэрую кабылу, што ён для яе рыхтаваў.

— Сёння мы яе пабачым,— сказаў ён.— Не ведаю, ці здасца яна вам прыгожай. Вы там, у Парыжы, занадта пераборлівыя, але тут, у Перпіньяне, усе лічаць яе чароўнай. А галоўнае — яна вельмі багатая. Яе цётка з Прада пакінула ёй сваю маёмасць. О, які я буду шчаслівы!

Я быў глыбока абураны, што хлопца значна болей цікавіць пасаг, чым прыгожыя вочкі маладой.

— Вы знаецеся на каштоўнасцях,— працягваў пан Альфонс,— як вам падабаецца вось гэта? Гэта пярсцёнак, што я ёй заўтра падарую.

Сказаўшы гэта, ён зняў з першай костачкі свайго мезенца тоўсты пярсцёнак, упрыгожаны брыльянтамі, у форме дзвюх пераплеценых рук — вобраз, што падаўся мне незвычайна паэтычным. Даўнейшай работы, але мне здалося, што яго перарабілі, каб уставіць брыльянты. Унутры пярсцёнка можна было прачытаць надпіс гатычнымі літарамі: *Sempr'ab ti*, гэта значыць: «Назаўсёды з табою».

— Прыгожы пярсцёнак,— сказаў я,— але з-за гэтых брыльянтаў ён трошкі страціў сваю адметнасць.

— О, так ён значна прыгажэйшы,— сказаў ён з усмешкай.— Тут брыльянтаў на тысячу дзвесце франкаў. Мне дала яго маці. Гэта вельмі старажытны фамільны пярсцёнак... яшчэ з рыцарскіх часоў. Яго насіла мая бабуля, а яна атрымала яго ад сваёй бабулі. Бог ведае, калі ён быў зроблены.

— У Парыжы,— зазначыў я,— звычайна даруюць про-

сты пярсцёнак, часцей за ўсё зроблены з двух розных металаў, напрыклад з золата і плаціны. Вось, дарэчы, гэты пярсцёнак на вашым пальцы падышоў бы куды больш. А гэты з брыльянтамі такі вялікі, што з ім на руку і пальчатку не надзенеш.

— Ат, нічога. Мая будучая жонка сама вырашыць, што́ з ім рабіць. Думаю, што яна ў любым выпадку будзе рада яго атрымаць. Тысяча дзвесце франкаў на пальцы — гэта прыемна. А гэты маленькі пярсцёнак,— дадаў ён, задаволена паглядзеўшы на просценькі пярсцёначак, што быў у яго на руцэ,— падаравала мне ў Парыжы адна жанчына падчас карнавалу. Ах, як я пагуляў, калі быў у Парыжы два гады таму! Во дзе людзі весяляцца!..— уздыхнуў ён з жалем.

Таго дня мы мусілі абедаць у Пюігарыгу, у бацькоў маладой. Мы селі ў экіпаж і накіраваліся ў замак, што быў прыблізна за паўтара лье ад Іля. Мяне прадставілі і сустрэлі як старога сябра. Я не буду казаць пра абед і пра гутарку, якая пасля завязалася і ў якой я амаль не браў удзелу. Пан Альфонс, што сядзеў побач са сваёй нявестай, праз кожныя чвэрць гадзіны шаптаў ёй нешта на вуха. Што да яе, яна не паднімала вачэй і кожнага разу, як будучы муж нешта ёй казаў, сціпла чырванела, але адказвала без замяшання.

Панне дэ Пюігарыг было васемнаццаць гадоў, яе танклявая і зграбная постаць вельмі кантраставала з мажной фігураю яе дужага жаніха. Яна была не проста прыгожая, але прывабная, спакуслівая. Я дзівіўся дасканалай простасці ўсіх яе адказаў. А яе добры твар, у якім праглядалася трошкі хітрасці, мімаволі нагадаў мне гаспадарову Венеру. Зрабіўшы ў думках гэткае параўнанне, я задумаўся, ці перавага ў прыгажосці, якую ўсё ж належала аддаць статуі, не тлумачылася галоўным чынам драпежнасцю ў выразе яе твару? Бо сіла, нават у благіх праявах, заўсёды выклікае ў нас здзіўленне і нейкае міжвольнае захапленне.

«Як шкада,— падумаў я, пакідаючы Пюігарыг,— што такая прывабная дзяўчына багатая і што дзеля яе пасагу яе выбірае чалавек, які яе няварты!»

Вярнуўшыся ў Іль і не знайшоўшы што сказаць пані дэ Пэрарад, да якой я час ад часу лічыў прыстойным звяртацца, я зазначыў:

— Вы тут у Русільёне проста вальнадумцы! Як жа вы, пані, ладзіце вяселле ў пятніцу? У нас у Парыжы болей забабонаў, ніхто б не наважыўся ажаніцца ў гэты дзень.

— Ай, не кажыце мне,— адказала яна.— Калі б вырашала я, дык, вядома ж, выбралі б іншы дзень. Але ж так захацеў Пэрарад, і мы мусілі яму саступіць. Аднак мяне гэта непакоіць. А раптам здарыцца якое няшчасце? Нешта ў гэтым ёсць, бо інакш чаму ўсе так баяцца пятніцы?

— Пятніца, Veneris dies — гэта дзень Венеры! — закрычаў яе муж.— Найлепшы дзень для вяселля! Бачыце, мой дарагі калега, я толькі і думаю што пра маю Венеру. Слова гонару, менавіта дзеля яе я і выбраў пятніцу. Заўтра перад вяселлем, калі хочаце, мы складзем ёй маленькую ахвяру, мы ахвяруем ёй дзвюх галубак, і калі б я ведаў, дзе ўзяць кадзідла...

— Ты, Пэрарад, ужо зусім даўся! — перапыніла яго абураная жонка.— Кадзіць стодзіву! Такая ганьба! Што пра нас будуць казаць у наваколлі!

— Ну, тады,— сказаў пан дэ Пэрарад,— ты хоць бы дазволіш мне ўскласці ёй на галаву вянок з лілей і руж:

Manibus date lilia plenis[1].

Бачыце, пане, «Канстытуцыя» — пустое слова. У нас няма свабоды веравызнанняў!

Парадак на другі дзень быў вызначаны такі. Усе мусілі быць гатовыя і прыбраныя дакладна а дзесятай гадзіне. Выпіўшы шакаладу, усе сядалі ў экіпаж і выпраўляліся ў Пюігарыг. Цывільны шлюб меўся адбыцца ў мясцовай мэрыі, а рэлігійны абрад — у замкавай капліцы. Пасля ішло сняданне. Пасля снядання сяк-так бавілі час да сёмай гадзіны. А сёмай вярталіся ў Іль да пана дэ Пэрарада, дзе абедзве сям'і, сабраўшыся разам, вячэралі. Астатняе было само сабой зразумелае — не могучы танчыць, вырашылі як мага болей з'есці.

Ад восьмай гадзіны раніцы я сядзеў перад Венерай з алоўкам у руцэ і ўжо дваццаты раз пачынаў маляваць галаву статуі, не могучы ўлавіць выразу твару. Пан дэ Пэрарад хадзіў вакол мяне, даваў парады, паўтараў мне свае фінікійскія этымалогіі. Пасля ўсклаў бенгальскія ружы на п'едэстал статуі і трагікамічным голасам звярнуўся да яе з маленнем аб шчасці пары, што мелася жыць пад ягоным дахам. Каля дзевятай гадзіны ён вярнуўся ў дом, каб паклапаціцца пра ўбранне, і ў гэтую хвіліну з'явіўся пан Альфонс у шчыльна аблеглым новым сурдуце, белых пальчатках, лакаваных чаравіках, з тонкай работы запінкамі і з ружай у пятліцы.

[1] Раздавайце лілеі шчодрай рукою *(лац.)*.

— Вы намалюеце партрэт маёй жонкі? — спытаўся ён, схіліўшыся над маім накідам.— Яна таксама вельмі прыгожая.

У гэты момант на пляцоўцы, пра якую я расказваў, пачыналася гульня, якая адразу прыцягнула ўвагу пана Альфонса. А я, стаміўшыся і страціўшы надзею перадаць на паперы гэтае д'ябальскае аблічча, неўзабаве кінуў маляваць і пачаў назіраць за гульцамі. Сярод іх было некалькі іспанскіх паганятых, што прыбылі ў мястэчка напярэдадні. Гэта былі арагонцы і наварцы, амаль усе незвычайна спрытныя. І таму ільцы, хоць і падтрыманыя прысутнасцю і парадамі пана Альфонса, былі хутка пераможаны прышлымі майстрамі. Мясцовыя гледачы зажурыліся. Пан Альфонс зірнуў на гадзіннік. Была яшчэ толькі палова дзесятай. Маці яшчэ не прычасалася. Ён, не вагаючыся, зняў сурдут, узяў у некага куртку і кінуў выклік іспанцам. Я, трохі здзіўлены, з усмешкай паглядаў на яго.

— Трэба падтрымаць гонар мястэчка,— сказаў ён.

І тады ён падаўся мне сапраўды прыгожым. Ён быў апантаны. Святочнае ўбранне, якое толькі што так яго займала, цяпер для яго нічога не значыла. Яшчэ пару хвілін перад тым ён баяўся павярнуць галаву, каб не з'ехаў набок гальштук. Цяпер ён ужо болей не думаў ні пра свае старанна ўчасаныя валасы, ні пра бездакорныя складкі жабо. А як жа маладая?.. Клянуся, калі б было трэба, ён, я думаю, адклаў бы і вяселле. Ён паспешліва абуў сандалі, засукаў рукавы і ўпэўнена стаў на чале пераможанай каманды, як Цэзар, што далучыўся да сваіх салдатаў у Дырахіі. Я пералез цераз жываплот і ўтульна ўладкаваўся пад засенню каменнага дрэва, каб лепей бачыць абедзве каманды.

Насуперак спадзяванням, пан Альфонс прайграў першы мяч. Ён праляцеў над самай зямлёю, з незвычайнай сілай пасланы адным арагонцам, які, відаць, быў у іспанцаў за галоўнага.

Гэта быў чалавек гадоў сарака, сухі і знерваваны, ростам у шэсць стоп, і яго аліўкавая скура была амаль такая цёмная, як счарнелая бронза Венеры.

Пан Альфонс злосна кінуў ракетку вобзем.

— Пракляты пярсцёнак,— закрычаў ён,— цісне палец, і я не магу адбіць просты мяч!

Ён з цяжкасцю сцягнуў пярсцёнак з брыльянтамі. Я падышоў, каб узяць яго, але ён апярэдзіў мой намер, падбег да Венеры, надзеў ёй пярсцёнак на безыменны палец і зноў заняў месца на чале ільцаў.

Ён быў бледны, але спакойны і рашучы. Ён болей ніводнага разу не схібіў, і іспанцы былі разбіты. Забаўна было глядзець, як радуюцца гледачы: адныя безупынна крычалі ад радасці і падкідалі капелюшы ўгору, другія ціснулі яму руку, называлі яго гонарам мястэчка. Ён прымаў такія шчырыя і гарачыя віншаванні, як бы ён адбіў варожае нашэсце. Засмучэнне пераможаных дадавала бляску яго трыумфу.

— Калі-небудзь мы згуляем яшчэ, хлопча,— сказаў ён паблажліва арагонцу.— Але я дам вам ачкоў наперад.

Мне было трохі прыкра за такую нясціпласць пана Альфонса, і я адчуваў няёмкасць перад абражаным супернікам.

Іспанскі асілак глыбока перажываў гэтае прыніжэнне. Я ўбачыў, як яго смуглявы твар зрабіўся бледны. Ён змрочна паглядзеў на сваю ракетку, сціснуўшы зубы, пасля ціха сказаў здушаным голасам: *Me lo pagaràs*[1].

Голас пана дэ Пэрарада парушыў трыумф яго сына. Мой гаспадар, які вельмі здзівіўся, не знайшоўшы сына пры наглядзе за падрыхтоўкай новага экіпажа, здзівіўся яшчэ больш, калі ўбачыў яго спацелага з ракеткай у руцэ. Пан Альфонс пабег дадому, вымыў твар і рукі, надзеў свой новы сурдут і лакаваныя чаравікі, і праз пяць хвілін мы ўжо гналі рыссю па дарозе на Пюігарыг. Усе мястэчковыя гульцы і безліч гледачоў з раднымі воклічамі беглі за намі так, што нашы дужыя коні ледзь здолелі пакінуць ззаду гэтых нястомных каталонцаў.

Мы прыехалі ў Пюігарыг, і вясельнае шэсце ўжо збіралася выправіцца ў мэрыю, калі раптам пан Альфонс, ляпнуўшы сябе па лобе, ціхенька сказаў мне:

— Якая прыкрасць! Я пакінуў пярсцёнак! Ён на пальцы ў Венеры, каб яе халера ўзяла! Хоць бы ўжо не кажыце маёй маці. Можа, яна нічога не заўважыць.

— Вы б маглі некага паслаць,— параіў я.

— Ат! Мой слуга застаўся ў Ілі, а гэтым я не надта давяраю. Брыльянтаў на тысячу дзвесце франкаў, на гэта шмат бы хто спакусіўся. Дый што б тут падумалі пра маю забыўлівасць? З мяне б смяяліся. Мяне б назвалі мужам статуі... Толькі б пярсцёнак не ўкралі! Добра, што мае прайдзісветы баяцца стодзіва. Яны не наважваюцца блізка падыходзіць. Ай, не бяды! У мяне ёсць іншы пярсцёнак.

Цывільная і царкоўная цырымоніі адбыліся з адпаведнай пышнасцю, і панна дэ Пюігарыг атрымала пярсцёнак

[1] Ты мне за гэта заплаціш *(ісп.)*.

парыжскай мадысткі, не падазраючы, што жаніх дарые ёй знак кахання іншае жанчыны. Пасля селі за стол, пілі, елі, нават спявалі, і ўсё надта доўга. Я перажываў за маладую з прычыны бурлівае весялосці, што панавала вакол яе, аднак яна трымалася лепш, чым я чакаў, і яе замяшанне не было спрычынена збянтэжанасцю або прытворствам.

Можа, мужнасць абуджаецца ў цяжкіх абставінах.

Сняданне скончылася, калі Бог паклаў. А чацвёртай гадзіне мужчыны пайшлі прагуляцца ў цудоўны мясцовы парк або глядзелі, як на замкавым лузе скачуць пюігарыгскія сялянкі, убраныя ў святочныя строі. Такім чынам мы прабавілі некалькі гадзін. Тым часам жанчыны мітусіліся вакол маладой, якая паказвала ім вясельныя падарункі. Пасля яна змяніла ўбранне, і я ўбачыў, што яна схавала свае прыгожыя валасы пад капелюшом з пер'ем, бо жанчыны нішто так не спяшаюцца зрабіць, як убрацца так, як звычай ім забараняў, пакуль яны былі паннамі.

Было ўжо каля восьмай гадзіны, калі сабраліся ехаць у Іль. Але спачатку адбылася чуллівая сцэна. Цётка панны дэ Пюігарыг, што была ёй за маці, старая і надта пабожная кабета, не ехала з намі ў мястэчка. На развітанне яна прамовіла сваёй пляменніцы кранальнае павучанне аб яе сужонскіх абавязках, і павучанне гэтае выклікала патокі слёз і бясконцыя абдыманні. Пан дэ Пэрарад параўнаў гэтае развітанне з выкраданнем сабінянак. Урэшце мы выехалі, і падчас усёй дарогі ўсе стараліся забавіць і развесяліць маладую, але ўсё было марна.

У Ілі нас чакала вячэра, і якая вячэра! Калі раніцай мяне збянтэжыла грубаватая застольная весялосць, дык цяпер я быў збянтэжаны яшчэ болей жартамі і намёкамі, скіраванымі да маладых. Малады, што быў знік на хвілінку перш чым сесці за стол, сядзеў збялелы і халодна-паважны. Штохвіліны ён куляў чарку са старым каліурскім віном, моцным, як гарэлка. Я сядзеў побач з ім і палічыў патрэбным яго папярэдзіць:

— Сцеражыцеся! Кажуць, што віно...

Не памятаю, што за глупства я яму сказаў, каб патрапіць у тон застолля.

Ён штурхнуў мяне каленам і ціха сказаў:

— Калі ўсе ўстануць з-за стала... я хацеў бы сказаць вам пару слоў.

Мяне здзівіў яго ўрачысты тон. Я паглядзеў на яго ўважлівей і ўбачыў, як дзіўна змяніўся ягоны твар.

— Вам нядобра? — спытаўся я.

— Ды не.

І ён зноў пачаў піць.

Тым часам пад радасныя крыкі і воплескі хлопчык гадоў адзінаццаці вылез з-пад стала і паказаў прысутным прыгожую бела-ружовую стужку, якую ён адвязаў з ножкі маладой. Гэта завецца «зняць у маладой падвязку». Яе адразу парэзалі на кавалачкі і раздалі маладым хлопцам, якія паўстаўлялі гэтыя кавалачкі сабе ў пятліцы, згодна са старым звычаем, што яшчэ захаваўся ў некаторых патрыярхальных сем'ях. Маладая густа пачырванела... Але яна яшчэ болей збянтэжылася, калі пан дэ Пэрарад, запатрабаваўшы, каб усе сціхлі, праспяваў колькі каталонскіх прыпевак, якія, сцвярджаў ён, былі вольным экспромтам. Вось іх сэнс, калі я ўсё добра зразумеў:

«Што ж гэта робіцца, сябры? Ці ў мяне ад віна ўваччу дваіцца? Дзве Венеры тут перада мною...»

Малады павярнуўся зусім разгублены, і ўсе засмяяліся.

«Так, так,— працягваў пан дэ Пэрарад,— пад маім дахам дзве Венеры. Адну я знайшоў пад зямлёй, а другая спусцілася з нябёсаў і падзяліла з намі свой пояс».

Ён хацеў сказаць: «Сваю падвязку».

«Мой сыне, выберы сабе тую Венеру, што ты жадаеш,— рымскую або каталонскую. Але ж ён, шэльма, ужо ўзяў каталонку і слушна зрабіў. Рымлянка чорная, каталонка белая. Рымлянка халодная, ■ да каталонкі не падысці — загарышся».

Гэткі дасціпны канец выклікаў у прысутных такое захапленне, такія бурлівыя воплескі, такі грымотны смех, што я баяўся, каб столь не абвалілася нам на галовы. За сталом не смяялася толькі трое — маладыя і я. Мне надта балела галава, дый да таго ж, не ведаю чаму, вяселлі заўсёды мяне засмучаюць. А гэтае было мне нават трошкі непрыемнае.

Калі намеснік мэра даспяваў апошнія куплеты, якія, трэба прызнацца, былі даволі нясціплыя, усе перайшлі ў вялікую залу, каб паглядзець, як адыдзе маладая, якую неўзабаве павінны былі ўвесці ў яе пакой, бо ўжо набліжалася поўнач.

Пан Альфонс падвёў мяне да акна і сказаў, паглядаючы ўбок:

— Вы будзеце з мяне смяяцца... Але я не ведаю, што са мною робіцца... Мяне зачаравалі! Я ў д'яблавых руках!

Першая думка, якая прыйшла мне ў галаву, была аб тым,

што ён баіцца нейкага няшчасця, накшталт тых, пра якія гавораць Мантэнь і пані дэ Сэвінье:

«Каралеўства кахання поўніцца трагічнымі здарэннямі...» і г. д.

«Я думаў, што такія непрыемнасці здараюцца толькі з разумнымі людзьмі»,— сказаў я сам сабе.

— Вы выпілі зашмат каліурскага віна, дарагі пан Альфонс,— сказаў я.— Я вас папярэджваў.

— Можа, і так. Але тут нешта страшнейшае.

Ён гаварыў урывіста. Я падумаў, што ён ужо зусім п'яны.

— Вы ж памятаеце мой пярсцёнак? — сказаў ён, трохі памаўчаўшы.

— Ну, памятаю. Дык што, яго нехта ўзяў?

— Не.

— Значыць, ён у вас?

— Не... я... я не магу зняць яго з пальца гэтай д'яблавай Венеры.

— Ну дык вы проста слаба цягнулі.

— Ды не... Але Венера... яна сціснула палец.

Ён разгублена паглядзеў на мяне, успершыся на падваконне, каб не ўпасці.

— Што за байкі! — адказаў я.— Вы занадта моцна яго насунулі. Заўтра прыйдзеце з абцугамі і знімеце. Але толькі не пашкодзьце статую.

— Ды не, кажу я вам. Яна сагнула палец, яна сціснула руку, чуеце?.. Значыць, яна цяпер мая жонка, бо я падараваў ёй свой пярсцёнак... Яна не хоча яго аддаваць.

Я здрыгануўся, і мароз прабег у мяне па скуры. Пасля ён глыбока ўздыхнуў, мяне ахуталі вінныя выпарэнні, і трывога мая сунялася.

«Няшчасны,— падумаў я,— ён ушчэнт п'яны».

— Вы знаўца старажытнасцяў, пане,— дадаў малады, ледзь не плачучы,— вы ведаеце гэтыя статуі... можа, тут ёсць нейкая штука, нейкія хітрыкі, пра якія я не ведаю... Можа, вы сходзіце і паглядзіце?

— Ахвотна,— згадзіўся я.— Хадземце разам.

— Не. Лепш схадзіце адзін.

Я выйшаў з залы.

Пакуль мы вячэралі, надвор'е паспела змяніцца, і на двары цяпер ліў моцны дождж. Я збіраўся вярнуцца і папрасіць парасон, але, падумаўшы, спыніўся. «Я буду вялікім дурнем,— падумаў я,— калі пайду правяраць тое, што наплёў мне п'яны чалавек! Можа, зрэшты, ён захацеў са-

строіць нейкі благі жарт на пацеху гэтым паважаным правінцыялам, і я, як найменей, змокну да касцей і праступджуся».

Ад дзвярэй я зірнуў на залітую дажджом статую і, не вяртаючыся ў залу, падняўся ў свой пакой. Я лёг, але доўга не мог заснуць. Перада мной паўставалі ўсе падзеі гэтага дня. Я думаў пра гэтую прыгожую і чыстую дзяўчыну, аддадзеную грубаму п'яніцу. «Як гэта брыдка — шлюб з разлікам! — падумаў я.— Мэр уздзявае трохколерную перавязь, святар — стулу, і вось найцнатлівейшая дзяўчына аддаецца Мінатаўру. Што могуць дзве істоты, не злучаныя каханнем, сказаць адна адной у гэтую хвіліну, за якую двое каханкаў былі б гатовыя аддаць жыццё? Ці можа калінебудзь жанчына пакахаць мужчыну, пабачыўшы яго аднойчы грубым? Першыя ўражанні не забываюцца, і, я ў гэтым упэўнены, пан Альфонс заслужыць справядлівую нянавісць...»

Падчас гэтага маналогу, які я тут падаў, значна скараціўшы, я чуў, як у доме хадзілі сюды і туды, дзверы расчыняліся і зачыняліся, экіпажы ад'язджалі. Пасля я, здаецца, пачуў са сходаў лёгкія крокі некалькіх жанчын, што ішлі па калідоры ў другі бок ад майго пакоя. Маладую, напэўна, урачыста праводзілі да ложка. Пасля жанчыны спусціліся па сходах. Дзверы пані дэ Пэрарад зачыніліся. «Як гэтай няшчаснай дзяўчыне цяпер неспакойна і няўтульна!» — падумаў я. Ад злога гумору я доўга круціўся ў ложку. У якім жа дурным становішчы знаходзіцца стары кавалер у доме, дзе чыніцца вяселле.

Нейкі час навокал панавала ціша, пакуль яе не парушылі цяжкія крокі па сходах. Драўляныя прыступкі гучна рыпелі.

— От, хамуйла! — не стрымаўся я.— Яшчэ зараз зваліцца са сходаў.

Усё зноў сціхла. Я ўзяў кнігу, каб змяніць ток маіх думак. Гэта быў статыстычны даведнік пра дэпартамент, узбагачаны нарысам пана дэ Пэрарада аб друідычных помніках у акрузе Прад. Я заснуў на трэцяй старонцы.

Спаў я кепска і некалькі разоў прачынаўся. Было каля пятай гадзіны раніцы, і я не спаў ужо хвілін дваццаць, калі закрычаў певень. Бралося на дзень. І тады я выразна пачуў тыя самыя цяжкія крокі, той самы рып прыступак, што чуў перад тым, як заснуць. Гэта падалося мне дзіўным. Я пазяхнуў і паспрабаваў угадаць, чаму пан Альфонс усхапіўся так рана, але нічога не мог прыдумаць. І я ўжо збіраўся заплюшчыць вочы, калі ўвагу маю зноў прыцягнуў

дзіўны тупат, да якога хутка далучыўся бразгат званкоў і грукат дзвярэй, што расчыняліся насцеж. Урэшце я пачуў нейкія няясныя крыкі.

«Напэўна, гэты п'янюга нешта падпаліў!» — падумаў я і саскочыў з ложка.

Я хуценька надзеўся і выйшаў у калідор. З другога канца даносіліся крыкі і галашэнне, і адзін пранізлівы голас заглушаў астатнія:

— Мой сын! Мой сын!

Відаць, нешта здарылася з панам Альфонсам. Я пабег у шлюбны пакой: у ім было поўна людзей. Першае, што я ўбачыў, быў малады муж, напалову раздзеты, які ляжаў поперак зламанага ложка. Ён быў збялелы і нерухомы. Маці крычала і плакала побач з ім. Пан дэ Пэрарад мітусіўся, цёр яму скроні калонскай вадой, клаў пад нос соль. Але марна — яго сын ужо даўно памёр. На канапе ў другім канцы пакоя маладая білася ў страшных сутаргах, яна нешта бязладна крычала, і дзве мажныя служанкі ледзьве яе трымалі.

— О Божа! — закрычаў я.— Што здарылася?

Я падышоў да ложка і прыўзняў цела няшчаснага хлопца. Яно было ўжо пруткае і халоднае. Зубы ў яго былі сціснутыя, і на счарнелым твары адбіўся невымоўны страх. Па ўсім відаць, памёр ён гвалтоўна, у страшнай агоніі. І, аднак, на вопратцы не было ні кроплі крыві. Я расхінуў яго кашулю і ўбачыў на грудзях ссінелы след, ён быў таксама па баках і на спіне. Здавалася, яго задушылі жалезным абручом. Я наступіў на нешта цвёрдае, што ляжала на дыване. Нахіліўшыся, я ўбачыў пярсцёнак з брыльянтамі.

Я адвёў пана дэ Пэрарада з жонкай у іх пакой, пасля загадаў перанесці туды маладую.

— У вас яшчэ засталася дачка, і вы мусіце аб ёй паклапаціцца,— сказаў я і пакінуў іх адных.

Я не сумняваўся, што пан Альфонс стаўся ахвярай забойства, спраўцы якога знайшлі сродак прабрацца ўночы ў пакой нявесты. Аднак гэтыя сляды на грудзях і на спіне забітага змусілі мяне задумацца, бо такія сляды не мог бы пакінуць кій або лом. І раптам я згадаў, што неяк чуў, як у Валенсіі наёмныя забойцы ўжываюць за зброю доўгія мяхі, набітыя дробным пяском. І мне адразу прыгадаўся арагонскі паганяты і яго пагроза, аднак я не наважваўся падумаць, каб ён так страшна адпомсціўся за лёгкі жарт.

Я хадзіў па ўсім доме, шукаючы паўсюль сляды ўварвання, але нідзе іх не знаходзіў. Я спусціўся ў сад, каб паба-

чыць, ці не маглі забойцы ўвайсці з гэтага боку, але ж не знайшоў ніякіх пэўных знакаў. Дый учорашні дождж так вымачыў зямлю, што на ёй не магло застацца больш-менш выразных адбіткаў. І, аднак, я заўважыў на зямлі некалькі глыбокіх слядоў. Яны ішлі ў два супрацьлеглыя бакі, але па адной лініі, што пачыналася ад кута жываплота, які аддзяляў двор ад пляцоўкі, і канчалася ля ўваходных дзвярэй. Гэта маглі быць сляды пана Альфонса, калі ён хадзіў да статуі па свой пярсцёнак. З другога боку, жываплот у гэтым месцы быў радзейшы, і забойцы маглі свабодна праз яго пралезці. Пахадзіўшы сюды-туды каля статуі, я спыніўся на хвіліну, каб лепей яе разгледзець. І гэтым разам, прызнацца, я не мог глядзець без страху на яе злосны і насмешлівы твар, а як галава мая яшчэ поўнілася жахлівым відовішчам, сведкам якога я нядаўна стаўся, дык мне здалося, што гэтае пякельнае боства радуецца няшчасцю, якое абрынулася на гэты дом.

Я вярнуўся ў свой пакой і заставаўся ў ім да поўдня. Тады я выйшаў, каб наведаць маіх гаспадароў. Яны трошкі паспакайнелі. Панна дэ Пюігарыг, ці, дакладней кажучы, удава пана Альфонса, апрытомнела. Яна нават паспела пагаварыць з каралеўскім пракурорам з Перпіньяна, які быў якраз праездам у Ілі. Гэты службовец занатаваў яе сведчанні. Пасля ён апытаў мяне. Я сказаў яму ўсё, што ведаў, і не хаваў перад ім маіх падазрэнняў што да арагонскага паганятага. Пракурор адразу загадаў яго арыштаваць.

— Ці вы даведаліся што істотнае ад удавы пана Альфонса? — спытаўся я ў каралеўскага пракурора, калі мае сведчанні былі занатаваныя і падпісаныя.

— Гэтая няшчасная маладая пані страціла розум,— адказаў ён, сумна ўсміхнуўшыся.— Вар'ятка, чыстая вар'ятка! Вось што яна расказала:

— Яна ляжала ўжо некалькі хвілін з засунутай заслонай, калі дзверы ў пакой расчыніліся і нехта ўвайшоў. Маладая пані ляжала на краі ложка тварам да сцяны. Яна не павярнулася, думаючы, што ўвайшоў муж. Праз момант ложак застагнаў, быццам пад вялізным цяжарам. Яна страшна спалохалася, але не наважылася павярнуцца. Так мінула хвілін пяць або дзесяць... Яна не адчувала часу. Пасля яна міжвольна варухнулася ці, можа, варухнуўся той, хто быў у ложку, і яна адчула дотык нечага, кажучы яе словамі, як лёд халоднага. Яна зноў адсунулася на край ложка, дрыжачы ўсім целам. Неўзабаве дзверы зноў расчыніліся, і нехта ўвайшоў, сказаўшы: «Добры вечар, жо-

начка». Праз момант заслона адсунулася. Яна пачула здушаны крык. Той, хто ляжаў побач з ёй у ложку, сеў і выцягнуў рукі наперад. Тады яна павярнула галаву і... і ўбачыла, што яе муж стаіць на каленях перад ложкам, галава каля падушкі, а нейкі зялёны волат з усяе сілы сціскае яго рукамі. Яна сказала, яна паўтарыла мне разоў дваццаць, бедная!.. яна сказала, што пазнала — ці здагадаліся? — бронзавую Венеру, статую пана дэ Пэрарада... З таго часу, як гэтая статуя тут з'явілася, усе толькі пра яе і гавораць. Але вернемся да апавядання беднай вар'яткі. Убачыўшы гэта, яна страціла прытомнасць, а за хвіліну да таго, пэўна, і розум. Яна ніяк не магла сказаць, колькі часу яна праляжала без руху. Апрытомнеўшы, яна зноў убачыла тую здань, ці, як яна кажа, статую, што нерухома сядзела ў ложку, трымаючы ў абдымках яе мужа. Праспяваў певень. Тады статуя ўстала з ложка, кінула нябожчыка і выйшла. Маладая пані кінулася званіць у званок, і астатняе вы ведаеце самі.

Прывялі іспанца. Ён быў спакойны і бараніўся з выключнай вытрымкай і разважлівасцю. Зрэшты, ён не адмовіўся ад словаў, што я быў пачуў ад яго, але словы гэтыя, як ён цвердзіў, не значылі нічога іншага, як толькі тое, што на другі дзень ён, адпачыўшы, выйграе партыю ў мяч у свайго пераможцы. Памятаю, як ён дадаў:

— Арагонец, калі яго абразяць, не чакае да заўтра, каб адпомсціцца. Калі б мне здалося, што пан Альфонс мяне абразіў, я адразу прапароў бы яму нажом жывот.

Яго чаравікі параўналі са слядамі ў садзе: сляды аказаліся значна меншымі.

Урэшце гаспадар заезду, дзе спыніўся гэты чалавек, пацвердзіў, што той усю ноч завіхаўся каля хворага мула.

Да таго ж гэты арагонец меў добрую славу ў наваколлі, яго тут добра ведалі, бо ён прыязджаў сюды гандляваць штогод. Яго вызвалілі, папрасіўшы прабачэння.

Я забыўся падаць сведчанні слугі, які апошні бачыў пана Альфонса жывога. Гэта было ў той момант, калі той збіраўся падняцца да жонкі і, паклікаўшы гэтага чалавека, спытаўся з трывогай, ці не ведае той, дзе я. Слуга адказаў, што не бачыў мяне. Тады пан Альфонс уздыхнуў і, памаўчаўшы хвіліну, сказаў: «Ну вось, д'ябал, пэўна, забраў і яго!»

Я спытаўся ў гэтага чалавека, ці быў у пана Альфонса, пакуль ён з ім гаварыў, пярсцёнак з брыльянтамі. Слуга вагаўся з адказам, урэшце сказаў, што, напэўна, не, што ён не звярнуў на гэта ніякай увагі.

— Калі б у яго на пальцы быў гэты пярсцёнак, я б яго

абавязкова заўважыў, бо я ведаў, што ён быў падараваў яго маладой пані.

Распытаўшы гэтага чалавека, я таксама трошкі адчуў той забабонны страх, што агарнуў увесь дом пасля расказу Альфонсавай жонкі. Каралеўскі пракурор паглядзеў на мяне з усмешкай, і я не стаў яго пераконваць.

Праз некалькі гадзін пасля пахавання пана Альфонса я збіраўся пакінуць Іль. Экіпаж пана дэ Пэрарада мусіў давезці мяне да Перпіньяна. Нягледзячы на слабасць, няшчасны стары захацеў правесці мяне да садовай брамы. Мы моўчкі прайшлі праз сад, стары ледзь ступаў, абапіраючыся на маю руку. Перад тым як развітацца, я кінуў апошні позірк на Венеру. Я адчуваў, што мой гаспадар, хоць ён і не падзяляў страху і агіды, якія статуя абуджала ў яго сям'і, хоча пазбавіцца ад прадмета, што няспынна нагадваў бы яму пра жахлівае няшчасце. Я збіраўся намовіць яго аддаць статую музею. Я не наважваўся пра гэта загаварыць, але пан дэ Пэрарад машынальна павярнуў галаву ў той бок, куды я так пільна ўглядваўся. Ён убачыў статую і расплакаўся. Я абняў яго і, не асмеліўшыся сказаць ні слова, падняўся ў экіпаж.

Ад'ехаўшы, я ўжо больш ніколі не чуў, каб нейкія новыя звесткі пралілі святло на гэтае таямнічае забойства.

Пан дэ Пэрарад памёр праз некалькі месяцаў пасля смерці сына. Ён адпісаў мне ў спадчыну свае рукапісы, якія я, можа, некалі надрукую. Я не знайшоў сярод іх даследавання пра надпісы на статуі Венеры.

P. S. Мой сябар пан дэ П. толькі што напісаў мне з Перпіньяна, што статуя болей не існуе. Пасля смерці мужа першым клопатам пані дэ Пэрарад было пераплавіць яе на звон, і ў гэтай новай форме яна служыць цяпер Ільскай царкве. «Але,— дадае пан дэ П.,— здаецца, што гэты кавалак бронзы прыносіць няшчасце сваім уладальнікам. З таго часу, як над Ілем звоніць гэты звон, ужо двойчы вымярзалі вінаграднікі».

## ВЕНЕРА ІЛЬСКАЯ

Упершыню ў «Revue des Deux Mondes» 15 мая 1837 года. У 1841 годзе разам з навеламі «Душы чыстца» і «Каломба» выйшла асобнай кнігай.

С. 103. Эпіграф да навелы ўзяты з XVII раздзела дыялога «Аматар хлусні» старажытнагрэчаскага сатырыка Лукіяна з Самасаты (125—каля 180).

С. 104. *...часоў Карла Вялікага...*— Кароль франкаў Карл Вялікі (742—814) быў абвешчаны імператарам у 800 годзе.

С. 105. *Русільён* — даўняя французская правінцыя з галоўным горадам Перпіньянам.

С. 106. *Тэрмін* — рымскае боства, ахоўнік межаў; меў выгляд слупа з чалавечаю галавой.

С. 107. *Кусту* — прозвішча трох вядомых французскіх скульптараў: Нікаля (1658—1733), яго брата Гіёма-бацькі (1677—1746) і Гіёма-сына (1716—1777). Тут, відаць, гаворка ідзе пра Нікаля Кусту.

С. 108. *Мірон* — грэчаскі скульптар (V ст. да н. э.).

С. 110. *Мора* — старажытная народная гульня: гульцы адначасова паказваюць пальцы і называюць лічбу. Перамагае той, хто ўгадаў колькасць усіх пальцаў. Статуя «Гулец у мору» знаходзіцца ў Луўры, яе аўтарам лічыцца старажытнагрэчаскі скульптар Клеамен (I ст. да н. э.).

*Германік* (15 г. да н. э.— 19 г. н. э.) — рымскі ваявода, празваны Германікам за перамогі над германскімі плямёнамі.

С. 111. *«Вось Венера звязала ахвяру сілкамі!»* — радок з трагедыі Расіна «Федра» (дзея 1, з'ява 3).

С. 114. *Тэтрык* — прызначаны Рымам прэфект Аквітаніі (паўднёва-заходняя Францыя), у 268 г. н. э. ён захапіў уладу і абвесціў сябе імператарам Галіі. Яму ўдалося трымаць уладу да 273 г.

*Грутэр,* Ян (1560—1627) — галандскі філолаг-класік, аўтар капітальнай працы пра старажытнарымскія надпісы.

*Орэлі,* Еган-Каспар (1787—1849) — швейцарскі філолаг, аўтар каментаваных выданняў твораў Гарацыя, Цыцэрона і Тацыта, а таксама зводу старажытных лацінскіх надпісаў.

С. 115. *Дыямед* — адзін з герояў старажытнагрэчаскай міфалогіі, падчас Траянскай вайны ў разгар бою параніў Афрадыту. Пасля гэтага разлютаваная багіня доўга перашкаджала яму вярнуцца на радзіму. У «Метамарфозах» Авідзія ёсць апавяданне пра тое, як Венера (Афрадыта) ператварыла спадарожнікаў Дыямеда ў белых птушак.

С. 120. *Выкраданне сабінянак* — эпізод з легендарнай гісторыі Стара-

жытнага Рыма: некалі Рым быў заселены аднымі мужчынамі, суседняе племя сабінянаў адмаўлялася аддаваць сваіх жанчын замуж за рымлянаў. Тады падчас наладжанага ў горадзе раскошнага свята рымляне нечакана напалі на бяззбройных гасцей і выкралі найпрыгажэйшых сабінянак.

С. 122. *...пра якія гавораць Мантэнь...*— Мерымэ мае на ўвазе адну з даволі фрывольных мясцін «Вопытаў» французскага пісьменніка і філосафа Мішэля дэ Мантэня (1533—1592).

*Пані дэ Сэвінье,* Марыя дэ Рабютэн-Шанталь (1626—1696) — французская пісьменніца, аўтар «Лістоў» — цікавага і таленавітага літаратурнага твора.